Гродна
№24 (506),
30 снежня 2018

www.slowo.grodnensis.by

# Слова Жыцця

ГАЗЕТА ГРОДЗЕНСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ




# Сям'я як школа любові



**Новы 2019 год аб'яўлены Канферэнцыяй Каталіцкіх Біскупаў у Беларусі Годам сям'і. Яго пастырская праграма будзе прысвечана тэме "Сям'я – крыніца радасці і надзеі моладзі". Такое рашэнне абумоўлена 2-ма галоўнымі падзеямі ў Касцёле, за якімі ўважліва сачыў свет у мінулым годзе: гэта Сусветны форум сям'і, што адбываўся ў Ірландыі, і Сінод Біскупаў па праблемах моладзі, якія не так даўно завяршыўся ў Ватыкане.**

● працяг на с. 5

*Аўтар фота Яна Роўда*

# 2019 год: што святкуем?

**Новы 2019 год неверагодна насычаны круглымі і юбілейнымі датамі. Асаблівым чынам будзем узгадваць другарадных заступнікаў Гродзенскай дыяцэзіі: св. Казіміра, каралевіча, у 535-ую гадавіну яго смерці і 415-ую гадавіну кананізацыі, а таксама св. Максімільяна Марыю Кольбэ, святара і мучаніка, у 125-ую гадавіну яго нараджэння. Якія яшчэ важныя гадавіны стануць сёлета адметнымі для дыяцэзіян?**

● працяг на с. 4–5

**"Кожная сям'я павінна быць санктуарыем жыцця". Папа Францішак**

# РАЗВАЖАННІ З БОЖЫМ СЛОВАМ

**СВЯТА СВЯТОЙ СЯМ'І**
**Лк 2, 41–52**

Бацькі Ягоныя хадзілі штогод у Ерусалім на свята Пасхі. І калі Яму было дванаццаць гадоў, яны прыйшлі паводле звычаю ў Ерусалім на свята. Калі пасля заканчэння дзён свята яны вярталіся, засталося Дзіця Езус у Ерусаліме, і не заўважылі гэтага Ягоныя бацькі. Думаючы, што Ён ідзе з падарожнымі, прайшлі дзень дарогі і тады пачалі шукаць Яго між сваякамі і знаёмымі. Не знайшоўшы, вярнуліся ў Ерусалім, шукаючы Яго. І сталася, што пасля трох дзён знайшлі Яго ў святыні. Ён сядзеў сярод настаўнікаў, слухаючы іх і пытаючыся ў іх. Усе ж, хто слухаў Яго, дзівіліся розуму і адказам Ягоным. І, убачыўшы гэта, здзівіліся; і сказала Яму Маці Ягоная: "Сыне, чаму Ты зрабіў нам гэтак? Вось айцец Твой і я ў вялікім смутку шукалі Цябе". І сказаў ім: "Чаго ж вы Мяне шукалі? Ці вы не ведалі, што Мне трэба быць у тым, што належыць Айцу майму?". А яны не зразумелі таго, што Ён сказаў ім. І пайшоўшы з імі, прыйшоў у Назарэт і быў ім паслухмяны. А Маці Яго захавала ўсе гэтыя словы ў сэрцы сваім. Езус жа ўзрастаў у мудрасці, у гадах і ў ласцы ў Бога і ў людзей.

## НАЗАРЭТАНСКІ ПРЫКЛАД

Жыццё Святой Сям'і было напоўнена цяжкасцямі: нялёгкай штодзённай працай, цярпеннем, страхамі, клопатамі, нават неабходнасцю некалькігадовага вандравання па чужыне. Бог, нягледзячы на тое, што ў Сям'і рос Яго Сын, не зрабіў яе дарогу простай і лёгкай. Але даў мудрасць і моц для таго, каб ісці гэтым шляхам у святой настойлівасці і пакоры.

Сёння Святая Сям'я з'яўляецца для нас прыкладам, які нельга адсоўваць на другі план, спіхваць на абочыну жыцця. Заўсёды маючы гэты ідэал перад вачыма, нягледзячы на ўласную слабасць і недасканаласць, будзем крок за крокам набліжацца да яго. Калі ж згубім арыенцір, будзем стаяць на месцы ці, што горш, пачнём рухацца назад.

**Ці спрабую пераймаць Святую Сям'ю з Назарэта?**
**Якія ідэалы з'яўляюцца для мяне прыярытэтнымі?**

**УРАЧЫСТАСЦЬ АБ'ЯЎЛЕННЯ ПАНА**
**Мц 2, 1–12**

Калі ж Езус нарадзіўся ў Бэтлееме Юдэйскім у дні караля Ірада, вось мудрацы з усходу прыбылі ў Ерусалім, кажучы: "Дзе нованароджаны кароль юдэйскі? Бо мы бачылі зорку Ягоную на ўсходзе і прыйшлі пакланіцца Яму". Пачуўшы гэта, кароль Ірад занепакоіўся і ўвесь Ерусалім з ім. Ён сабраў усіх першасвятароў і кніжнікаў народу і пытаўся ў іх, дзе павінен нарадзіцца Месія? Яны сказалі яму: "У Бэтлееме Юдэйскім, бо так напісана пракорам: «І ты, Бэтлеем, зямля Юды, нічым не меншы сярод гарадоў Юды, бо з цябе выйдзе Валадар, які будзе пасвіць народ Мой, Ізраэля»". Тады Ірад, патаемна паклікаўшы мудрацоў, выведаў у іх пра час з'яўлення зоркі. Паслаўшы іх у Бэтлеем, сказаў: "Ідзіце і старанна шукайце Дзіця, калі ж знойдзеце, паведаміце мне, каб і я пайшоў пакланіцца Яму". Яны ж, выслухаўшы караля, пайшлі. І вось зорка, якую яны бачылі на ўсходзе, ішла перад імі, пакуль не прыйшла і не стала над месцам, дзе было Дзіця. Убачыўшы зорку, яны вельмі ўзрадаваліся. Увайшоўшы ў дом, яны ўбачылі Дзіця з Марыяй, Маці Яго, і ўпалі, і пакланіліся Яму. І адчыніўшы скарбніцы свае, ахвяравалі Яму дары: золата, кадзіла і мірру. І папярэджаныя ў сне, каб не вярталіся да Ірада, іншай дарогай адышлі ў сваю краіну.

## ДАРОГА ЗБАЎЛЕННЯ

Пан Бог вядзе людзей да сябе рознымі шляхамі. Для адных ён просты і кароткі, іншыя пераадольваюць яго з вялікай цяжкасцю. Чалавек неаднойчы асуджаны на мноства сумненняў і клопатаў, перш чым у ім зазззяе святло веры.

Трое мудрацоў даверыліся зорцы, у духу пакорнасці і ахвяры накіраваліся за яе святлом – і адшукалі Бога, пакланіліся Яму. Мы, сучасныя людзі, таксама павінны ўпасці ніцма перад Дзіцяткам Езус, верачы, што Сын Усемагутнага прыйшоў у постаці чалавека. Не маем золата, кадзіла і мірры, таму ахвяруем Збаўцы тое, што ў нашых сілах: поўную адданасць, шчырую малітву, кожнае намаганне і ўсякую працу. Хрыстос жа ў адказ укажа нам дарогу да Праўды, Любові і Збаўлення.

**Якой дарогай крочу да Бога?**
**Якія дары магу скласці перад Збаўцам?**

*Кс. Юрый Марціновіч*

**Слова рэдактара**



*Кс. Юрый Марціновіч*

# Дар сапраўднай любові

*Здзейснілася таямніца ўцелаўлення Божага Сына. Спраўдзілася тое, што здавалася немагчымым: "Слова сталася Целам і пасялілася між намі" (Ян 1, 14). Чалавечая сям'я зрабілася сям'ёй самога Бога, дзе Хрыстос рос, набіраўся моцы і мудрасці. Ячэйка грамадства, якая ўспрымалася звычайнай, стала выключнай, адзінай і непаўторнай, стала калыскай жыцця і святасці.*

Хоць мінула ўжо больш за дзве тысячы гадоў, сям'я надалей застаецца крыніцай дабра, асяроддзем, дзе нараджаецца і развіваецца духоўнае жыццё чалавека. Менавіта ў сям'і мы адчуваем, што патрэбны сваім блізкім і свету, а ў першую чаргу, што нас любяць. Гэтае разуменне, што будзем прыняты іншымі, з'яўляецца неабходным на кожным этапе жыцця.

Як жа было б цудоўна, каб усе мы дасведчылі дар сапраўднай любові ў сваіх сям'ях! Каб імкнуліся да ідэалу, якім з'яўляецца Святая Сям'я, і клапаціліся аб шчасці блізкіх не колькасцю працы і зарабляннем грошай, а найперш сумесным баўленнем часу, размовамі і ўзаемнай падтрымкай. На гэтым будуецца свет сапраўдных каштоўнасцей.

Жыццё Святой Сям'і было ціхім, простым і ўбогім. Яе шчасце заключалася не ў багацці, раскошы і высокім палажэнні ў грамадстве, а ўнутры сэрцаў, у любові і адказнасці адзін за аднаго. Ні Езус, ні Марыя, ні Юзаф не адчувалі сябе адзінокімі, паколькі мелі непахіснае ўсведамленне таго, што яны патрэбныя адзін аднаму. Былі ўпэўненыя, што будуць разам у добрым і ў дрэнным.

Такая штодзённая святасць дасяжная для кожнай сям'і! Каб Бог пасяліўся сярод нас, дастаткова толькі паверыць: тым, што можа выратаваць чалавека, з'яўляецца любоў. І калі будзем будаваць сваё жыццё на гэтай вызначальнай каштоўнасці, Усемагутны абавязкова аб'явіць сваё аблічча ў нашых сем'ях.

**Дарагія Чытачы!**

Няхай на першым месцы ў нашых сем'ях будзе збаўчая воля Хрыста. Бацькі сем'яў, углядайцеся ў постаць св. Юзафа, каб сваю жонку і дзяцей заўсёды ўспрымаць як Божы дар. Жонкі і маці, па прыкладзе Марыі, паслухмянай Юзафу, прызнавайце і шануйце аўтарытэт мужа. Дзеці, падобна Езусу, які з пакорай выконваў наказы сваіх зямных Бацькоў, паважайце маму і тату і будзьце ім паслухмянымі.

**Усім сем'ям жадаю шчаслівага новага 2019 года, шчодрага на Божае благаслаўленне і ласкі!**



## Умілаваныя ў Хрысце Пану Браты і Сёстры!

### Дарагія Чытачы "Слова Жыцця"!

*Сярод разнастайных спраў сённяшняга свету Пан Бог прапануе ўсім нам на момант затрымацца і паглыбіцца ў радасны роздум над сэнсам стварэння. Нагодай да гэтага з'яўляецца нараджэнне Божага Сына, Езуса Хрыста, які – пасланы ў свет у постаці маленькага Дзіцяці – здзейсніў найвялікшую справу ў гісторыі чалавецтва.*

*Уваходзячы ў чарговы раз у перажыванне радасці свят Божага Нараджэння, мы хочам, сапраўды ўглядаючыся ў Хрыста, нанова адшукаць сэнс свайго жыцця.: не ў вялікіх справах гэтага свету і штодзённай мітусні, а ў поўным веры паглыбленні ў прысутнасць Бога і Яго пакорнае прабыванне сярод нас у асобе нованароджанага Дзіцяці.*

*Няхай Езус Хрыстус адорыць Вас любоўю і радасцю, умацуе сувязі ў Вашых сем'ях і асяроддзях, а таксама зробіць Вашы сэрцы і сумленні больш чулымі да клопату аб кожным чалавечым жыцці, аб выхаванні маладога пакалення, аб лёсе пажылых, хворых, церпячых і беспрацоўных людзей. Няхай сёлетняе святкаванне нараджэння Збаўцы, якое напаўняе нас радасцю і адкрытасцю на іншага чалавека, прынясе Вам і Вашым блізкім супакой у сэрцы. Увойдзем з надзеяй на невядомыя шляхі новага 2019 года, запрашаючы Пана ў сваю штодзённасць. Жадаю, каб ласка і супакой ад Бога Айца і ад Яго Сына Езуса Хрыста былі з намі ўсімі!*

*З пастырскім благаслаўленнем*

***Аляксандр Кашкевіч***
*Біскуп Гродзенскі*

# Новы дом, дзе пасяліўся Пан



*Касцёл св. Яўхіма ў Клюшчанах (дэканат Астравец) перажыў 2 сусветныя вайны, а таксама перыяд рэлігійных ганенняў. Святыня, грунтоўна адноўленая некалькі гадоў таму, была дашчэнту знішчана падчас пажару 6 чэрвеня 2017 года. Мясцовыя парафіяне пазбавіліся месца малітвы, дзе "сэрца цешылася, а душа адпачывала".*

### ВЯЛІКАЯ СТРАТА

Сёння там, дзе калісьці стаяў старажытны драўляны касцёл, што захапляў сваім знешнім выглядам, віднеецца



яго разбураны фундамент. Падчас пажару была знішчана ўся маёмасць святыні, у тым ліку 2 старажытныя абразы: Маці Божай Чанстахоўскай і св. Юрыя, мучаніка. Багатую гісторыю касцёла, які цяпер можна ўбачыць толькі на памятных здымках з прыватных архіваў, жыхарам і гасцям Клюшчанаў прыгадвае абгарэлы місійны крыж.

***"Кожны раз, калі праходжу міма таго месца, дзе калісьці стаяў касцёл, адчуваю смутак і жаль. Клапаціліся пра яго, як пра ўласны дом, а можа, нават больш... Гэта вялікая страта для нас і вялікі боль,*** – адзначае Галіна Пецюлевіч, старшыня парафіяльнай рады. – ***Заўсёды з ахвотай ішлі ў святыню на малітву, паколькі для ўсіх парафіян гэта было асаблівае месца. Менавіта там мы супольна ўдзельнічалі ў Эўхарыстыі, пасля чаго абгаворвалі бягучыя справы, што датычылі вёскі і ваколіц".***



### НЕ АПУСКАЮЧЫ РУК

Пасля пажару вернікі перажылі шок, аднак смела і пакорна прынялі гэтае выпрабаванне. ***"Спачатку з'явілася думка, каб на старым фундаменце ўзвесці такі самы касцёл,*** – распавядае пробашч парафіі кс. Анатоль Захарэўскі. – ***Аднак паўсталі пытанні: за якія грошы і для каго? З года ў год колькасць парафіян памяншаецца... Старэйшае пакаленне паволі адыходзіць у вечнасць, моладзь выязджае ў вялікія гарады. Пасля таго, як мы грунтоўна абмеркавалі сітуацыю і абмалілі яе, спыніліся на тым, каб аднавіць старую плябанію, зрабіўшы з яе капліцу".***



На дапамогу нешматлікай супольнасці вернікаў, якая сёння налічвае каля 140 асоб, прыйшлі католікі з усёй Гродзенскай дыяцэзіі: перадавалі матэрыяльныя ахвяраванні, а таксама некаторыя літургічныя прылады. ***"Мы сустрэліся з вялікім разуменнем і незвычайнай зычлівасцю многіх людзей, якія працягнулі нам руку дапамогі, а таксама падтрымалі малітоўна. Дзякуючы гэтаму маем сёння прыгожую капліцу, дом, дзе пасяліўся Пан",*** – адзначае кс. Анатоль.

Святар дадае, што мясцовыя вернікі ў меру сваіх магчымасцей аказваюць усякую дапамогу. Не засталіся абыякавымі і людзі, якія паходзяць з Клюшчанаў, а сёння жывуць у вялікіх гарадах ці за мяжой: у Літве, Латвіі. ***"Усіх аб'яднала адна ідэя – стварэнне новага месца малітвы, дзе будзе збірацца жывая супольнасць вернікаў",*** – тлумачыць мясцовы пробашч.

На сёння плябанія адноўлена не толькі ўнутры, але і звонку. Тры пакоі злучаны ў адзін, заменены вокны і дзверы, пастаўлены новыя лаўкі. У новай каплічцы ўжо ёсць 2 алтары: галоўны ў гонар св. Яўхіма, заступніка парафіі, а таксама бакавы ў гонар Маці Божай Чанстахоўскай, культ якой здаўна распаўсюджаны сярод мясцовых вернікаў.

### З ВЕРАЙ ГЛЕДЗЯЧЫ Ў БУДУЧЫНЮ

Вызначаны ўжо планы на бліжэйшыя гады: трэба ўзнесці над будынкам вежы з крыжом і ўпарадкаваць прылягаючую тэрыторыю. На месцы знішчанай пажарам святыні мясцовыя вернікі хочуць паставіць новы крыж разам з памятнай таблiцай, дзе будзе змешчана гістарычная інфармацыя пра старажытны касцёл.

***"Цешыць, што парафіяне надалей збіраюцца на сумеснай малітве,*** – зазначае кс. Анатоль. – ***Мы стараемся будаваць тут супольнасць, якая грунтуецца на веры і любові, якая з'яўляецца адным цэлым, аб чым так моцна прасіў Езус. Цэлебруючы Эўхарыстыю, я заўсёды прашу аб гэтай еднасці, аб любові, аб тым, каб у кожным сэрцы Бог здзейсніў цуд злучэння з Сабой".***

Вернікі клюшчанскай парафіі вельмі ўдзячны кс. б-пу Аляксандру Кашкевічу за духоўную падтрымку, выказаную ў лісце, скіраваным ім непасрэдна пасля пажару, а таксама за зычлівасць, чуласць і дабрыню сэрца. Складаюць таксама словы ўдзячнасці ўсім людзям добрай волі, якія працягнулі ім сваю дапаможную далонь.

"Калі церпіць адзін член, церпяць з ім усе члены" (1 Кар 12, 26), паколькі Касцёл з'яўляецца вялікай сям'ёй Божых дзяцей. У гэтым на ўласным прыкладзе пераканаліся вернікі парафіі св. Яўхіма ў Клюшчанах, якія нястомна памятаюць у малітве пра сваіх дабрадзеяў і ахвяравальнікаў.

*Кс. Юрый Марціновіч*

***У клюшчанскай парафіі служыў кс. Канстанцін Стэповіч (паэтычны псеўданім – Казімір Сваяк). Святар арганізаваў пры касцёле парафіяльны хор, у якім сам іграў на скрыпцы і спяваў. У мясцовай святыні ў 1915 годзе ён прамовіў адно са сваіх першых казанняў на беларускай мове, што ў той час было ў навінку. Таксама дзякуючы намаганням святара ў наваколлі паўстала некалькіх школ з беларускай мовай навучання.***

***У парафіі нёс служэнне яшчэ адзін святар-паэт кс. Ян Семашкевіч (паэтычны псеўданім – Ян Кабыліна), святар-кампазітар кс. Галіч Сілінскі, а таксама кс. Адам Вайцяхоўскі, якога яшчэ пры жыцці называлі святым. Маючы медыцынскую адукацыю, святар лячыў цяжкахворых людзей. Залатымі літарамі ў гісторыі парафіі запісана імя кс. Юзафа Бародзіча. Ён пабудаваў плябанію, што зараз служыць капліцай, і змяніў знешні выгляд тагачаснай святыні. Пяру ксяндза належыць біяграфічная кніга "На возе і пад возам".***

# Падарожжа па святых месцах

*У жніўні бягучага года наш пробашч кс. Здзіслаў Пікула арганізаваў для парафіян двухдзённую экскурсію па знакамітых касцёлах Беларусі. Група вернікаў у складзе 45-ці чалавек наведала 8 гістарычных помнікаў архітэктуры, якія ахоўваюцца дзяржавай.*

У 1-шы дзень мы наведалі Будслаў, дзе атрымалі благаслаўленне на шчаслівае падарожжа. Упалі ў касцёле ніцма, давяраючы свой шлях Маці Божай у цудоўным абразе. Затым адправіліся ў Мосар. Там нас здзівіла прыкасцёльная тэрыторыя, засаджаная рознымі дрэвамі, кустамі і кветкамі. Далей маршрут пралягаў да возера Нарач. Адпачыўшы, вырушылі ў Міхалішкі. Тут мелі прыпынак на начлег. Сардэчна ўдзячныя мясцовым вернікам за шчодрую гасціннасць.

У 2-гі дзень падарожжа наведалі парафію Варняны, дзе чвэрць стагоддзя служыў наш пробашч. Парафіяне сустракалі былога душпастыра з вялікай радасцю, са слязьмі на вачах. Затым мы прыбылі ў Гервяты. Не хопіць слоў, каб перадаць усю прывабнасць гэтага маляўнічага месца! Касцёл проста патанаў у разнастайнай зеляніне. Перад тым, як зайсці ў святыню, разам з нашым пробашчам памаліліся на магіле яго сябра, былога мясцовага душпастыра кс. Леаніда Несцюка. У Астраўцы нас сардэчна прывітаў кс. дэкан Юзаф Багдзевіч. Ён з гонарам распавёў групе пра гісторыю тутэйшай святыні.




Апошнім прыпынкам на нашым шляху стаў Гудагай. У мясцовым касцёле кс. Здзіслаў адправіў св. Імшу, паблаславіўшы групу на добрую дарогу дадому.

Вернікі засталіся вельмі задаволены падарожжам, падчас якога маглі разам адпачыць, а галоўнае – духоўна ўзбагаціцца. Бязмежна ўдзячныя за гэта пробашчу кс. Здзіславу Пікулу! Няхай Бог аддзячыць яму за ахвярную душпастырскую працу.

*Вернікі з парафіі Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі ў Дзятлаве*

## СЛОВА ДЛЯ ЖЫЦЦЯ

### *Папа Францішак*



*Езус, пасылаючы сваіх вучняў на місію, гаворыць: "У які б дом ні ўвайшлі, спачатку кажыце: «Спакой гэтаму дому!». Калі будзе там сын спакою, то на ім спачне спакой ваш. Калі ж не, то вернецца да вас" (Лк 10, 5–6).*

*Перадача спакою знаходзіцца ў цэнтры місіі вучняў Хрыста. Гэтая прапанова адрасавана ўсім людзям, якія спадзяюцца на мір ва ўмовах трагедый і насілля ў гісторыі чалавецтва. "Домам", пра які гаворыць Езус, з'яўляецца кожная сям'я, кожная супольнасць, кожная краіна, кожны кантынент у сваёй выключнасці і гісторыі. Гэта найперш кожная асоба без выключэння ці якой-небудзь дыскрымінацыі. А таксама наш "супольны дом" – планета, на якой нас змясціў Бог, каб пасяліліся на ёй. І мы пакліканы ахінуць яе клапатлівай апекай. Няхай гэта будзе маё жаданне на пачатку новага года: "Спакой гэтаму дому!".*

*Мір на самой справе з'яўляецца вынікам вялікага палітычнага праекта, заснаванага на ўзаемнай адказнасці і ўзаемнай залежнасці чалавечых істот. Але гэта таксама выклік, які кожны дзень патрабуе прыняцця. Мір – гэта перамяненне сэрца і душы. Лёгка можна вызначыць 3 непадзельныя вымярэнні ўнутранага і грамадскага міру:*

*– мір з самім сабой (адштурхоўваючы бескампраміснасць, гнеў і нецярпенне, а прымяняючы – згодна з рэкамендацыямі св. Францішка Сальскага – "трохі саладосці ў адносінах да сябе, каб даць трохі саладосці іншым");*

*– мір з іншым чалавекам (членам сям'і, сябрам, чужым, убогім, церпячым... асмельваючыся сустрэць і выслухаць пасланне, якое той нясе з сабой);*

*– мір са стварэннем (адкрываючы веліч Божага дару і частку адказнасці, якая ляжыць на кожным з нас як жыхарах свету, грамадзянах і творцах будучыні).*

*Палітыка спакою, добра ведаючы людскія слабасці і прызнаючыся ў іх, можа заўсёды чэрпаць з духу гімна "Магніфікат", які Марыя – Маці Хрыста Збаўцы і Каралева Спакою – спявае ад імя ўсіх людзей: "І міласэрнасць Яго з пакалення ў пакаленне над тымі, хто Яго баіцца. Паказаў моц сваёй правіцы, рассеяў тых, хто пыхлівы сэрцам. Скінуў магутных з трона і ўзвысіў пакорных. Дабром галодных насыціў, а багатых ні з чым адправіў. Прыняў свайго слугу Ізраэля, памятаючы пра сваю міласэрнасць, як абяцаў бацькам нашым, Абрагаму і яго патомству навекі" (Лк 1, 50–55).*

*Фрагмент Паслання на 52-гі Сусветны дзень міру*




◆ *Папа Францішак прызначыў дырэктарам рэдакцыйнай дырэкцыі Дыкастэрыі па справах камунікацыі д-р. Андрэа Тарніэлі. Гэта вядомы ватыканскі аглядальнік, які на працягу апошніх гадоў працаваў у італьянскім часопісе "La Stampa". Святы Айцец таксама зацвердзіў на пасадзе новага адказнага дырэктара часопіса "L'Osservatore Romano". Ім стаў праф. Андрэа Монд – пісьменнік і эсэіст, спікер семінараў на тэму хрысціянства і літаратуры ў папскіх універсітэтах, выкладчык рэлігіі. Менавіта ён разам з вучнямі падрыхтаваў разважанні Крыжовага шляху, які Пантыфік узначаліў у Вялікую пятніцу 2018 года ў рымскім Калізеі.*

◆ *У санктуарыі Маці Божай з Санта-Крус у Аране (Алжыр) кард. Анджэла Бечу абвясціў блаславёнымі 19 мучанікаў. Яны былі забіты за веру ісламскімі тэрарыстамі ў сярэдзіне 1990-ых гадоў. Падобны абрад упершыню адбыўся ў самой краіне і ў Паўночнай Афрыцы. Гэта таксама першыя ўзнесеныя да хвалы алтара мучанікі, якія загінулі ад рук мусульманскіх фанатыкаў у нашыя часы.*

◆ *"Галасы тых, хто на майскім рэферэндуме выступаў супраць абортаў, былі праігнараваны", – пішуць біскупы Ірландыі ў пасланні, апублікаваным на апошнім пленарным пасяджэнні епіскапату. Падчас парламенцкіх дэбатаў па гэтым пытанні не прынята да ўвагі высновы аб прадухіленні аборту незалежна ад расы, полу ці інваліднасці дзіцяці. Не улічана таксама прапанова, каб жанчыны, якія знаходзяцца ў складанай жыццёвай сітуацыі, мелі магчымасць атрымаць інфармацыю аб альтэрнатыўных рашэннях. Такім чынам, абвешчана аб стварэнні спецыяльнага савета па гэтых пытаннях, які распачне працу ў сакавіку 2019 года.*

◆ *Дабрачынны вечар у падтрымку Украінскага каталіцкага ўніверсітэта адбыўся ў Міжнародным выставачным цэнтры ў Кіеве. Яго традыцыйна з 2008 года арганізуе круг кіеўскіх сяброў УКУ. Штогод на вечары фарміруецца ганаровы камітэт, у які ўваходзяць вядучыя царкоўныя дзеячы, палітыкі, бізнесмены, мастакі. У рамках мерапрыемства праходзіць аўкцыён і латарэя. Сёлета на дабрачынным вечары было сабрана каля 600 тысяч грывень. Агульная сума ахвяраванняў склала рэкордныя 12,5 мільёнаў грывень.*

◆ *Папскаму акаўнту ў сацыяльнай сетцы Твітэр споўнілася 6 гадоў! Першы запіс на гэтай інтэрнэт-пляцоўцы быў змешчаны Святым Айцом Бенедыктам XVI амаль праз 82 гады пасля першай трансляцыі выступлення папы Пія XI, якую ажыццявіла ўжывую толькі адкрытае тады Ватыканскае радыё. Сёння папскі акаўнт працягвае весці Святы Айцец Францішак. На аднаўленні яго старонкі падпісаны больш за 47 мільёнаў карыстальнікаў. Такая форма зносін біскупа Рыма са светам даступна на некалькіх мовах.*

*credo.pro; kai.pl; niedziela.pl*

# 2019 год: што святкуем?

● працяг са с. 1



## 25-годдзе афіцыйнай рэгістрацыі Дыяцэзіяльнай грамадскай дабрачыннай арганізацыі "Карытас", а таксама 20-годдзе перарэгістрацыі і новага статуса "Карытас" як дабрачыннага каталіцкага таварыства, якое сёння дзейнічае на тэрыторыі Гродзенскай вобласці

У сваёй працы "Карытас" удзяляе асаблівую ўвагу дзецям, сіротам, інвалідам, малазабяспечаным асобам, пенсіянерам, шматдзетным і няпоўным сем'ям, а таксама ўсім тым, хто апынуўся ў цяжкай жыццёвай сітуацыі, незалежна ад іх рэлігійнай, палітычнай, нацыянальнай і расавай прыналежнасці. Узначальвае таварыства кс. д-р Раман Рачко.



## 25-годдзе Дыяцэзіяльнага душпастырства чыгуначнікаў

Найстарэйшае душпастырства ў Гродзенскай дыяцэзіі паўстала ў 1994 годзе ў Парэччы. У той час адтуль выходзіў участак першай чыгуначнай лініі, пракладзенай на беларускай зямлі. Паступова цэнтр супольнасці перамясціўся ў Гродна. Тут зараз знаходзіцца асноўная частка ўдзельнікаў на чале з душпастырам а. Эдуардам Пяцельчыцам CSsR.




## 25-годдзе Дыяцэзіяльнага касцёльнага суда ў Гродне

З 1994 года сфера дзейнасці дадзенай судовай установы распаўсюджвалася не толькі на Беларусь, але і на еўрапейскую частку Расіі, Сібір і Казахстан. У такім выглядзе яна праіснавала да пачатку 2009 года, пакуль юрысдыкцыя суда не была звужана да тэрыторыі дыяцэзіі. Афіцыялам Касцёльнага суда Гродзенскай дыяцэзіі з'яўляецца кс. канонік Цэзарый Міх.



## 210-годдзе пабудовы касцёла Звеставання Найсвяцейшай Панны Марыі ў Тракелях, 25-годдзе абвяшчэння яго Дыяцэзіяльным санктуарыем Маці Божай Каралевы Нашых Сем'яў і 10-годдзе каранацыі цудадзейнага абраза Маці Божай Тракельскай



## 10-годдзе Дыяцэзіяльнага апостальства дапамогі чыстцовым душам

Задача членаў апостальства – жыць ва ўсведамленні паклікання да святасці і дапамагаць памерлым, якім патрэбна ачышчэнне. Удзельнікі супольнасці штодзённа ахвяруюць за душы ў чыстцы св. Імшу, Руханец, Вяночак да Божай міласэрнасці, адпусты, міласціну, добрыя ўчынкі і свае цярпенні. Сёння да Апостальства дапамогі чыстцовым душам у Гродзенскай дыяцэзіі належаць больш за 5 тысяч чалавек. Імі апекуецца кс. Міхал Ластоўскі.



## 10-годдзе Дыяцэзіяльнай асацыяцыі Святой Сям'і з Назарэта

Асацыяцыя з'яўляецца адгалінаваннем Кангрэгацыі Сясцёр Найсвяцейшай Сям'і з Назарэта (назарэтанак) для свецкіх, якія імкнуцца распаўсюджваць харызму Назарэта – ідэал Святой Сям'і. У супольнасць уваходзяць вернікі, якія прагнуць жыць па прыкладзе Найсвяцейшай Панны Марыі і св. Юзафа, пераймаць іх у пакоры, любові і прабачэнні.



## 20-годдзе дыяцэзіяльнага хору "Cantate Domino"

Упершыню хор выступіў у сакавіку 1999 года ў парафіі Божай Міласэрнасці ў Гродне. Сёння харысты даюць канцэрты як у парафіях дыяцэзіі, так і па-за межамі Беларусі. Музычны калектыў на чале з кіраўніком Генрыхам Давідовічам выконвае спевы на польскай, лацінскай і беларускай мовах. Сярод іх творы на розныя літургічныя перыяды, а таксама творы знакамітых кампазітараў.



## 255-годдзе пабудовы і асвячэння касцёла Адведзінаў Найсвяцейшай Панны Марыі ў Гудагаі і 5-ая гадавіна яго абвяшчэння Дыяцэзіяльным санктуарыем Маці Божай Шкаплернай

## Юбілеі святынь і круглыя даты ўтварэння каталіцкіх парафій:

- 490-годдзе ўтварэння парафіі Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі ў Начы; 110-годдзе пабудовы і 25-годдзе кансэкрацыі касцёла св. Юрыя ў Осаве (дэканат Радунь);
- 490-годдзе пабудовы касцёла св. Мікалая, біскупа, у Геранёнах (дэканат Іўе);
- 480-годдзе ўтварэння парафіі св. Яна Хрысціцеля ў Правых Мастах (дэканат Масты);
- 430-годдзе ўтварэння парафіі і 85-годдзе пабудовы касцёла Маці Божай Ружанцовай у Солах; 80-годдзе пабудовы касцёла Найсвяцейшай Тройцы ў Войстаме (дэканат Смаргонь);
- 410-годдзе ўтварэння парафіі Маці Божай Шкаплернай і 100-годдзе пабудовы касцёла св. ап. Юды Тадэвуша ў Прывалцы; 25-годдзе пабудовы касцёла Хрыста Валадара ў Азёрах; 15-годдзе пабудовы і кансэкрацыі касцёла св. Юзафа Рамесніка ў Скідзелі (дэканат Гродна-Усход);
- 410-годдзе ўтварэння парафіі св. Міхала Арханёла ў Белагрудзе; 25-годдзе ўтварэння парафіі Божай Міласэрнасці ў Лідзе (дэканат Ліда);
- 270-годдзе пабудовы касцёла Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі ў Новым Двары; 250-годдзе пабудовы касцёла св. Яна Хрысціцеля ў Васілішках (дэканат Шчучын);
- 290-годдзе пабудовы касцёла Найсвяцейшай Тройцы ў Стараельні (дэканат Дзятлава);
- 250-годдзе пабудовы і кансэкрацыі касцёла св. Юрыя ў Варнянах; 90-годдзе пабудовы і кансэкрацыі касцёла Апекі Найсвяцейшай Панны Марыі ў Дайлідках; 80-годдзе пабудовы і 25-годдзе асвячэння касцёла св. Андрэя Баболі ў Градоўшчыне (дэканат Астравец);
- 230-годдзе ўтварэння парафіі Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі і св. Язафата Кунцэвіча ў Сапоцкіне; 90-годдзе ўтварэння парафіі Маці Божай Ружанцовай у Лабне (дэканат Сапоцкін);
- 110-годдзе пабудовы касцёла Імя Найсвяцейшай Панны Марыі ў Рэплі (дэканат Ваўкавыск);
- 80-годдзе пабудовы касцёла Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі ў Капцёўцы; 25-годдзе ўтварэння парафіі і 20-годдзе пабудовы касцёла Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі ў Гродне (дэканат Гродна-Захад).

Падрыхтавала Кінга Красіцкая

● працяг са с. 1

**Вернікі разважаюць пра сужэнскі саюз, цяжкасці, з якімі ім даводзіцца сустракацца, і падмурак, на якім будуюць сямейнае шчасце.**

## Па прыкладзе Святой Сям'і

Познімі вечарамі, калі дзеці ўжо паснулі, парадкуеш усё ў кухні і ахвяруеш гадзіну сну дзеля цішыні. Часам, калі дзень вызначыўся нейкімі клопатамі або перажываннямі, гэтая цішыня перарастае ў падсумаванне дня, а лепш бы – у рахунак сумлення… Мімаволі позірк спыняецца на невялікім абразе Святой Сям'і з Назарэта, якім мая мама (светлая ёй памяць) блаславіла нас з мужам у дзень шлюбу. У абліччах гэтых святых столькі спакою, прыхаванага за пакорай і любоўю болю…

Наша сям'я яшчэ маладая – сёмы гадок. І выпрабаванні маёй любові як жонкі і маці таксама невялікія. Муж клапатлівы, дзеці збольшага здаровыя. А непаразуменні з Божай дапамогай удаецца пераадолець, пакуль шчыра ўсклікаю да Яго мудрасці. Хай сабе і не адразу, бо эмоцыі часам апераджаюць.

І ўсё ж такі мае адносіны з дзецьмі, мае шчаслівыя позіркі на іх усцяж працятыя неспакоем. Божа, навучы мяне давяраць Табе… І я ведаю крыніцу гэтай горычы – няпросты мацярынскі досвед маёй любай мамы. Цяпер, калі маю двух сыночкаў, а яшчэ двух дзетак недзе на Нябёсах, усё стала такім празрыстым! Далікатныя настаўленні і адчайныя ўгаворы маёй мамы, яе спакой і паніка, злосць з-за неразумных выбараў дзяцей і бясконцая радасць іх поспехам, давер поўнай свабоды і пільная інтэрвенцыя – за ўсім гэтым была любоў і вера ў сваіх дзетак. Не сорам, не крыўда, не апушчаныя да долу рукі… І злосць аказалася зусім не злосцю – гэта былі боль і горыч, жаданне перасцерагчы і… безумоўная любоў.

Святая Сям'я, маліся за нас, каб былі моцнымі верою! Навучы пакорнай і самаахвярнай любові – пакуль мы дзеці і калі ўжо самі бацькі.



Валянціна Грамыка

## На Божым падмурку



Вераніка і Эдвін Ненартовічы

Для стварэння моцнай і дружнай сям'і неабходна закласці трывалы падмурак, які грунтуецца на дакладным уяўленні аб вышэйшых каштоўнасцях: веры ў Бога, каханні, клопаце, павазе да бліжняга, адказнасці за свае словы і ўчынкі. Гэта тое, на чым мы выхоўваліся з самага нараджэння і неабходнасць чаго з цягам часу толькі павялічваецца.

Аснова хрысціянскай сям'і – любоў! Прычым не толькі любоў чалавека да каханай асобы, але найперш да Бога, да свайго бліжняга, да самога сябе. Дзякуючы Пану мы ёсць адно ў аднаго. Яшчэ адной і, лічым, вельмі важнай каштоўнасцю з'яўляецца супольная малітва, якая ўмацоўвае сям'ю і дапамагае пераадолець сустрэтыя перашкоды. У час вянчання святар сказаў нам такія словы: "Памятайце, што калі Бог на першым месцы, тады і ўсё астатняе будзе на сваіх месцах".

Наша сям'я нарадзілася толькі месяц таму – усё яшчэ наперадзе. Якой будзе наша будучыня, не ведаем. Гэта вядома толькі Богу! Але мы ўпэўнена можам сказаць, што свой падмурак ужо вызначылі і з'яўляемся алоўкам у Божых руках. Таму не сумняваемся: праз любоў і давер да Яго гісторыя нашай сям'і будзе напісана найлепшымі фарбамі.

## Любоў – аснова сям'і

У сучасным свеце сям'я з'яўляецца галоўнай адзінкай грамадства. Асабіста для мяне – як для асобы, выхаванай у традыцыйнай каталіцкай сям'і – гэты інстытут з'яўляецца асновай цэлага жыцця, аазісам спакою і ўпэўненасці, цёплых адносін паміж людзьмі, калыскай дабрыні і любові. Кіруючыся вартасцямі і прыкладамі, якія атрымала ад сваіх бацькоў, стараюся ствараць падобную атмасферу ўзаемнай павагі і даверу ва ўласнай сям'і.

Сям'я – гэта не толькі дабрабыт і пэўныя выгоды, але і штодзённая складаная праца, перамаганне разнастайных цяжкасцей. Чым больш перашкод пераадольваецца разам, тым мацнейшай становіцца сям'я. Яе апорай заўсёды павінен быць бацька, які мае непахісны аўтарытэт. Менавіта яго задачай з'яўляецца забеспячэнне асноўных духоўных і матэрыяльных патрэб іншых членаў сям'і. Маці павінна стаць невычэрпнай крыніцай любові, аказваючы ўсім разуменне і пяшчоту. Дзеці – самы каштоўны скарб у сужэнстве. Ім належыць расці ў добрай атмасферы, вучачыся паважаць старэйшых, асабліва бацькоў, дзядуль і бабуль. Бацькі ў сваю чаргу павінны клапаціцца пра сваё патомства, шанаваць яго патрэбы, перадаваць веру, традыцыі і звычаі. Каб усё гэта спраўна функцыянавала, патрэбна ЛЮБОЎ.



Ганна Пажэцкая

## Сям'я – гэта багацце



Францішак і Алёна Жылкі

Чым можа ганарыцца сучасны чалавек? Высокім становішчам у грамадстве, добрым матэрыяльным станам, нейкімі асабістымі дасягненнямі… Мы ж ганарымся тым, што маем дзве цудоўныя дачкі і ўжо пяць унучак. Без сумнення можам назваць сябе багатымі, бо ці ж не сапраўдны скарб – бачыць, як тваё жыццё працягваецца ў новых пакаленнях? Для поўнага шчасця нам дастаткова толькі, каб родныя былі здаровымі…

Лічым, што магутным стрыжнем, своеасаблівым падмуркам, які аб'ядноўвае сям'ю, з'яўляецца духоўнае адзінства, што грунтуецца на веры ў Бога. Усемагутны, як галоўны арыенцір у жыцці, злучае нас усіх, такіх розных, у штосьці цэлае, вучыць жыць у гармоніі з Ім і адзін з адным, вучыць ставіцца да кожнага з павагай і заўсёды аказваць падтрымку, нягледзячы на розныя жыццёвыя абставіны.

Вельмі добрай традыцыяй лічым супольнае святкаванне важнейшых каталіцкіх свят – Вялікадня і Божага Нараджэння. Калі ўся сям'я збіраецца за адным сталом, калі гучаць узаемныя віншаванні і просьбы прабачыць крыўды, сямейны дух значна ўмацоўваецца.







**Папу Францішку споўнілася 82 гады**

**У свой Дзень нараджэння Святы Айцец атрымаў віншаванні ад кіраўнікоў дзяржаў, рэлігійных лідараў, прадстаўнікоў свету навукі, мастацтва і многіх іншых людзей з усяго свету.**

Па традыцыі віншаванні Пантыфіку скіравала старажытная рымская кандытарская "Hedera", супрацоўнікі якой перадалі ў Ватыкан спецыяльны торт са смакам манга, упрыгожаны выявай Папы ў атачэнні моладзі. Такое аздабленне стала выразам падзякі Святому Айцу за клопат аб маладым пакаленні і адначасова напамінам пра звязаныя з моладдзю значныя падзеі ў жыцці Касцёла: Сінод Біскупаў, які прайшоў у кастрычніку, і Сусветныя дні моладзі, якія хутка распачнуцца ў Панаме.




**Ватыкан у сэрцы Татраў**

**Ледзяная святыня на Хрэбіеноку (Славакія) пабудавана па ўзоры рымскай базілікі св. Пятра і каланады Берніні.**

Ужо 6-ты год запар незвычайныя святыні, схаваныя ў цені велічных заснежаных Высокіх Татраў, захапляюць усё большым і большым размахам. На гэты раз ледзяная базіліка сягае ажно 11-ці метраў у вышыню. Для яе ўзвядзення выкарыстана 1800 блокаў лёду агульнай вагой 225 тон. Каб пабудова магла выстаяць да канца сакавіка, быў сканструяваны спецыяльны купал дыяметрам 25 метраў, дзе падтрымліваецца неабходная тэмпература.

Татранская базіліка выканана вядомым скульптарам Адамам Бакашам з групай 16-ці славацкіх, чэшскіх і іспанскіх разьбяроў.




**"Дар моладзі" дабраўся да Злучаных Штатаў**

**Прыгожы польскі паруснік падарожнічае вакол свету з мая 2018 года.**

Судна выплыла з Польшчы і за гэты час наведала, між іншым, Данію, Эстонію, Нарвегію, Азербайджан, Сінгапур, Кітай, Японію, Сенегал, Паўднёва-Афрыканскую Рэспубліку. Экіпаж складаецца з маладых людзей – студэнтаў Марскога ўніверсітэта і вучняў марскіх школ у Шчэціне і Свінавусці. Мэтай дадзенай акцыі з'яўляецца ўшанаванне сотай гадавіны незалежнасці Польшчы і папулярызацыя краіны ў свеце.

Праз некалькі месяцаў "Рэйс незалежнасці" завершыцца ў родным порце ў Гдыні.

## Каляндар падзей

***30 снежня***
*Свята Святой Сям'і. Молімся аб хрысціянскім жыцці і святасці ў сем'ях.*

***1 студзеня***
*Урачыстасць Святой Багародзіцы Марыі. Сусветны дзень малітвы аб супакоі ў свеце.*

***2 студзеня***
*Успамін св. Васіля Вялікага і Грыгорыя Назіянзіна, біскупаў і доктараў Касцёла.*

***6 студзеня***
*Урачыстасць Аб'яўлення Пана (Трох Каралёў). У святынях блаславляюць крэйду, ладан і ваду.*

***13 студзеня***
*Свята Хросту Пана. Заканчэнне перыяду Божага Нараджэння. Згодна з традыцыяй, калядкі можна спяваць да 2 лютага.*

## Праграмы каталіцкай рэдакцыі

***"Голас Евангелля"***
*Разважанні над Божым словам. Выходзіць на Першым нацыянальным канале Беларускага радыё кожную нядзелю ў 8.00 у Гродне на 96,9 FM, у Свіслачы на 100.8 FM.*

***Навіны з Ватыкана па-беларуску***
*Радыёвяшчанне з Апостальскай Сталіцы. Штодзённа ў 22.10 на 98,1 FM – у Гродне, Ваўкавыску, Шчучыне, Лідзе, Мастах і побач з гэтымі гарадамі; на 99,2 FM – у Брэсце і побач з ім; у 20.00 на кароткіх хвалях 6185 і 11715 кГц.; у 20.00 і 6.20 на спадарожніку "Eutelsat Hotbird 13" на канале "Radio Vaticana Telepace". Кожную нядзелю ў 8.55 на хвалях Першага нацыянальнага канала Беларускага радыё і на Канале "Культура" Беларускага радыё. У інтэрнэце на старонцы vatican.by.*

## Ружанцовыя інтэнцыі

***Студзень***
*Аб адзінстве і прымірэнні паміж хрысціянскімі супольнасцямі розных канфесій у дыяцэзіі, а таксама аб шчодрым духоўным плёне Дыяцэзіяльнага сінода.*

### НАВІНЫ



## ПЕРЫЯД СВЯТ БОЖАГА НАРАДЖЭННЯ

За некалькі дзён да аднаго з найважнейшых каталіцкіх свят у катэдральную базіліку св. Францішка Ксаверыя ў Гродне прыбыў Бэтлеемскі агонь міру. Яго даставілі харцэры з беларуска-польскай мяжы. Менавіта з цэнтра дыяцэзіі пачалася штогадовая скаўцкая эстафета Бэтлеемскага агню па гарадах і мястэчках Беларусі. Сёлета яна праходзіла пад дэвізам "Святло, якое яднае".

Апоўначы 25 снежня адбылася галоўная святочная падзея – св. Імша Пастэрка, у якой прынялі ўдзел католікі ўсяго свету, у тым ліку і Гродзенскай дыяцэзіі. Кс. бп Аляксандр Кашкевіч узначаліў яе ў касцёле Хрыста Валадара ў Азёрах (дэканат Гродна-Усход), кс. бп Юзаф Станеўскі – у касцёле св. Францішка Ксаверыя ў Гродне.

Да сённяшняга дня ў дыяцэзіі праходзяць апалаткавыя сустрэчы. Вернікі збіраюцца на супольнай малітве, каб падзяліцца хлебам любові і скласці адзін аднаму сардэчныя пажаданні. Між іншым, за ламаннем аплаткай ужо сустрэлася духавенства Гродзенскай дыяцэзіі, айцы піяры з усёй Беларусі, супрацоўнікі і навучэнцы Гродзенскай вышэйшай духоўнай семінарыі, члены душпастырстваў, разнастайных супольнасцей. Дэлегацыя святароў з Гродзенскай дыяцэзіі на чале з кс. б-пам Аляксандрам Кашкевічам прыняла ўдзел у аплаткавай сустрэчы Таварыства дапамогі "Рубеж" у Беластоку (Польшча). Многія ініцыятыўныя вернікі разам са сваімі душпастырамі паклапаціліся таксама пра інвалідаў, самотных, патрабучых.

З нагоды свят у парафіях ладзяцца разнастайныя конкурсы і акцыі. Калядныя мерапрыемствы будуць адбывацца ў Касцёле да 2 лютага – свята Ахвяравання Пана.

### ПРЫЗНАЧЭННІ

Біскуп Гродзенскі Аляксандр Кашкевіч уручыў намінацыйныя дэкрэты 2-ум новапрэзбітэрам, скіраваўшы іх на служэнне ў Касцёле на Гродзеншчыне. Кс. Раман Вайцяховіч прызначаны вікарыем у парафіі свсв. Космы і Дам'яна ў Астраўцы, кс. Эрнэст Мікалайчык – вікарыем у парафіі Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі ў Гродне.

### ВЫШЭЙШАЯ ДУХОЎНАЯ СЕМІНАРЫЯ

Навучэнцы Гродзенскай ВДС разам з прэфектам кс. Андрэем Лішко наведалі дом-інтэрнат у Галавічполлі і сустрэліся там з маленькімі выхаванцамі. Семінарыйны гурт "AVE" выступіў з канцэртам у Гродзенскім прафесійна-тэхнічным каледжы бытавога абслугоўвання насельніцтва. Такім чынам клерыкі раздзялілі з іншымі радасць свят Божага Нараджэння і засведчылі аб уласным перажыванні гэтага святочнага перыяду.

### ДАБРАЧЫННАЕ ТАВАРЫСТВА "КАРЫТАС"

Супрацоўнікі і валанцёры дыяцэзіяльнага "Карытас" па традыцыі арганізавалі дабрачынны калядны кірмаш. Сёлета ён адбыўся ў гродзенскай парафіі Найсвяцейшага Адкупіцеля. Вырučаныя ад продажу вырабаў сродкі скіраваны на патрэбы дзяцей-інвалідаў, дзяцей з малазабяспечаных сем'яў і тых, хто застаўся без бацькоўскай апекі, а таксама на падтрымку акцыі "Мабільная дапамога" (на карысць самотных і хворых людзей).

Шматлікія дабрачынныя акцыі зладзілі валанцёры "Карытас" у рэгіёнах.

### АДНЫМ РАДКОМ

• Папа Францішак прызнаў дэкрэтам гераічнасць цнот паплечніка св. Максімільяна Марыі Кольбэ а. Мельхіёра Фардона, які доўгі час служыў у Гродне. • Свет убачыла 12-ае выданне зборніка па навукова-тэалагічнай праблематыцы "Studia Theologica Grodnensia". • Выкладчык ВДС у Гродне кс. Віталій Сідорка атрымаў доктарскую ступень. • Вернікі з парафіі св. Міхала Арханёла ў Навагрудку прадставілі ў мінскім касцёле свсв. Сымона і Алены пастаноўку, прысвечаную 220-ай гадавіне з дня нараджэння паэта Адама Міцкевіча.

*Агляд навін падрыхтаваны на аснове інтэрнэт-старонкі* ***grodnensis.by.***

### АНОНСЫ

## РЭКАЛЕКЦЫІ ДЛЯ ЮНАКОЎ ПРОЙДУЦЬ У МЯДЗЕЛІ

**Духоўныя практыкаванні для хлопцаў ва ўзросце ад 14-ці гадоў будуць прысвечаны распазнанню паклікання.**

Рэкалекцыі адбудуцца ў манаскім доме айцоў кармэлітаў 4–6 студзеня.

*Падрабязную інфармацыю можна атрымаць па тэлефонах: (8 044) 589-68-98 – а. Аляксандр Стока OCD; (8 029) 557-69-12 – а. Генрых Валэйка OCD.*

## АПЛАТКАВАЯ СУСТРЭЧА ДЛЯ ЎДЗЕЛЬНІКАЎ ПІЛІГРЫМАК АДБУДЗЕЦЦА Ў ВАЎКАВЫСКУ

**Спатканне пройдзе 5 студзеня ў катэхетычным доме пры парафіі св. Вацлава. Пачатак у 16.00.**

Запрашаюцца ўдзельнікі пілігрымак у дыяцэзіяльныя санктуарыі Маці Божай Каралевы Нашых Сем'яў у Тракелях і Пана Езуса Журботнага ў Росі, а таксама тыя, хто плануе пайсці ў пілігрымку ў наступным годзе.

*У праграме сустрэчы – дзяленне аплаткай і вечар забаў.*

## XVIII ДЭКАНАЛЬНЫ ПРАГЛЯД КАЛЯДАК АДБУДЗЕЦЦА Ў САПОЦКІНЕ

**Мерапрыемства пройдзе 27 студзеня ў мясцовым Доме культуры пад дэвізам: "О, Любоў неспасціжная, якой жа вялікай ты была, што сюды з нябеснага трона зышла...". Пачатак у 15.00.**

Да ўдзелу запрашаюцца салісты, гурты, хоры, суполкі – усе, хто прагне дзяліцца радасцю Божага Нараджэння.

*Аб жаданні прыняць удзел у праглядзе неабходна да 13 студзеня паінфармаваць пробашча парафіі ў Сапоцкіне кс. Антонія Абухоўскага па тэлефоне: (8 029) 888-18-29 – або на электронны адрас: antonij1973@mail.ru.*

*Падчас рэгістрацыі трэба ўказаць:*
- *імя і прозвішча выканаўцы або назву гурта ці групы;*
- *колькасць спевакоў;*
- *назвы калядак.*

*Кожны ўдзельнік можа прадставіць 1–2 калядкі (па 3 слупкі).*

## ПАРАФІЯ СВ. СТАНІСЛАВА КОСТКІ Ў ВАЎКАВЫСКУ АРГАНІЗУЕ ПІЛІГРЫМКУ Ў ІТАЛІЮ

**Аўтобуснае паломніцтва запланавана з 30 красавіка па 9 мая.**

Праграмай пілігрымкі прадугледжана наведванне Венецыі, Падуі, Сан-Джавані-Ратонда, Монтэ-Сант-Анджэла, Асізі і многіх іншых гарадоў, звязаных з жыццём святых Антонія Падуанскага, Францішка Асізскага, Айца Піо.

У Рыме плануецца ўдзел у генеральнай аўдыенцыі з папам Францішкам. Пілігрымка завершыцца супольнай малітвай на Яснай Гары ў Чанстахове (Польшча).

*Больш падрабязную інфармацыю можна атрымаць у арганізатара пілігрымкі пробашча парафіі св. Станіслава Косткі ў Ваўкавыску кс. Алега Дуля па тэлефоне: (8 029) 313-65-64.*

## У малітве ўспамінаем памерлых душпастыраў:

**30 снежня 1997 г.** – кс. д-р Рышард Слівінскі, *праф. Гродзенскай ВДС;*

**4 студзеня 1967 г.** – кс. Баляслаў Красадомскі, *проб. Ішчолна;*

**10 студзеня 2004 г.** – а. Караль Шчэпанэк OFMCap, *проб. Ліпнішкі;*

**13 студзеня 1991 г.** – кс. прэлат Пётр Барташэвіч, *проб. Жалудок.*

# Ад шчырага сэрца

**Глыбока паважаным Ксяндзам Біскупам Аляксандру Кашкевічу і Юзафу Станеўскаму, Ксяндзам Пробашчу Яўгену Учкуронісу, Алегу Яновічу, Валерыю Быкоўскаму, Сястры Магдаліне Кулай і Закрыстыяніну Сяргею Кікілічу**

з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года перасылаем сардэчныя пажаданні. Няхай Дзіцятка Езус адорвае Вас сваімі ласкамі, супакоем, радасцю і штодзённа бласлаўляе, Панна Марыя стала апекуецца, а святло Святога Духа ніколі не гасне ў Вашых сэрцах. Жадаем моцнага здароўя, радасці, душэўнага супакою, цярплівасці, доўгіх гадоў жыцця. Дзякуем за добрыя сэрцы і за тое, што вучыце нас любові да Бога і бліжняга.

*Апостальства "Маргарытка" з парафіі св. Яна Паўла II у Смаргоні*

**Іх Эксцэленцыям Ксяндзу Арцыбіскупу Тадэвушу Кандрусевічу, Ксяндзам Біскупам Аляксандру Кашкевічу, Юзафу Станеўскаму і Антонію Дзям'янку, паважанаму Ксяндзу Пробашчу Пятру Кубелю і ўсім Святарам Гродзенскай дыяцэзіі**

з нагоды свят Нараджэння Пана шчыра жадаем, каб кожны дзень быў шчаслівы і блаславёны, заўсёды хапала сіл для выканання душпастырскіх абавязкаў, а побач былі добразычлівыя людзі. Няхай добры Бог адорвае Вас шчодрымі ласкамі, а Найсвяцейшая Маці нястомна апекуецца.

*Парафіяне з Крупава*

**Іх Эксцэленцыям Аляксандру Кашкевічу, Юзафу Станеўскаму і Антонію Дзям'янку, паважанаму Ксяндзу Пробашчу Віталію Цыбульскаму**

з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года жадаем моцы Святога Духа, добрага здароўя, сіл, чулых людзей побач, шчодрага плёну ў душпастырскай працы. Няхай Бэтлеемская зорка вядзе Вас найпрыгажэйшай дарогай да Пана. Дзякуем Пробашчу і яго родным за ўсе намаганні, прыкладзеныя для аднаўлення нашай святыні.

*Парафіяне з касцёла св. Казіміра ва Усялюбе*

**Паважанаму Ксяндзу Яну Балтрукевічу**

з нагоды свят Божага Нараджэння і Імянін перасылаем сардэчныя пажаданні. Няхай кожны дзень будзе напоўнены Божым бласлаўленнем, побач будуць добразычлівыя людзі, а Слова, якое Вы засейваеце ў сэрцах вернікаў, прыносіць шчодры плён. Здароўя Вам, радасці, доўгіх гадоў жыцця, аптымізму і поспехаў у душпастырскай працы.

*Парафіяне з касцёла Перамянення Пана і сёстры назарэтанкі з Навагрудка*

**Дарагому Ксяндзу Паўлу Эйсманту**

з нагоды Дня нараджэння, свят Божага Нараджэння і Новага года складаем сардэчныя пажаданні. Няхай міласэрны Бог адорвае Цябе бласлаўленнем і ласкамі, моцным здароўем і сілай на доўгія гады, а таксама пасылае добрых людзей на Твой жыццёвы шлях. Няхай Анёл-ахоўнік чувае над Табой, а Найсвяцейшая Маці і святы Заступнік нястомна апекуюцца.

*Бацькі і брат з сям'ёй*

**Паважанаму Ксяндзу Валерыю Лісоўскаму**

з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года перасылаем сардэчныя пажаданні: апекі Найсвяцейшай Панны Марыі, шчодрых дароў Святога Духа, даверу Усемагутнаму, які ўказвае Вам дарогу Праўды і Жыцця, моцнай веры, непахіснай надзеі і доўгіх гадоў жыцця ў службе Богу і людзям.

*Вернікі парафіі Імя НПМ, Вярэйкі*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Яну Этэлю**

з нагоды Дня нараджэння дасылаем шчырыя пажаданні. Няхай шлях, абраны для Вас Богам, заўсёды будзе асветлены Найсвяцейшай Маці, добры Езус трымае Вас ля свайго сэрца, адорваючы бласлаўленнем і ўсімі патрэбнымі ласкамі, а Святы Дух будзе бясконца шчодры на свае дары. Жадаем таксама здароўя, душэўнага супакою, радасці і цеплыні. Мы ўдзячныя Богу за Ваша добрае сэрца і малітву.

*"Легіён Марыі", група "Добрага Пастыра" з парафіі Божай Міласэрнасці ў Гродне*

**Паважанаму Ксяндзу Томашу Ксёнжкевічу**

з нагоды Дня нараджэння, свят Божага Нараджэння і Новага года перасылаем букет найлепшых пажаданняў. Няхай Дзіцятка Езус адорыць Вас добрым здароўем, сэрца ніколі не засмуціцца, а далейшае жыццё плыве ў шчасці і супакоі. Вясёлых свят!

*Парафіяне з Азёраў*

**Паважанаму Ксяндзу Яўгену Барысюку**

з нагоды Імянін ад усяго сэрца жадаем моцнага здароўя, шчасця, стойкасці ў душпастырскай працы, шчодрых Божых ласкаў і апекі Панны Марыі. Няхай Ваша дарога будзе шчаслівай і бласлаўлёнай, сэрца заўсёды будзе адкрыта на людзей, а выконваемая паслуга прыносіць радасць, задавальненне і шчодры плён.

*Вернікі з касцёла св. Андрэя Баболі ў Казловічах і парафіі Святой Сям'і ў Верцялішках*

**Паважанаму Ксяндзу Андрэю Казлоўскаму**

з нагоды Дня нараджэння жадаем здароўя, Божага бласлаўлення, апекі Найсвяцейшай Панны Марыі і стойкасці ў душпастырскай працы. Няхай Бэтлеемская зорка заўсёды асвячае Ваш святарскі шлях, а добрая прыязная ўсмешка ніколі не знікне з твару.

*Парафіяне з капліцы ў в. Масаляны*

**Паважаным Ксяндзам Дзмітрыю Урбановічу і Артуру Валчкевічу**

з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года шчыра жадаем, каб кожны дзень быў напоўнены Божай моцай, святлом, любоўю, людской зычлівасцю і дабрынёй. Няхай Дзіцятка Езус бласлаўляе Вас, Маці Божая будзе нястомнай Заступніцай і Дапаможніцай, а Святы Дух надзяляе мудрасцю, дае сіл у душпастырскім служэнні, асвячае жыццёвы шлях і вядзе за Хрыстом. Жадаем Вам моцнага здароўя, аптымізму, цярплівасці і доўгіх гадоў жыцця.

*Апостальства "Маргарытка" з капліцы св. Яна Паўла II у Смаргоні*

**Паважаныя Ксёндз Рэдактар Юрый Марціновіч і Працаўнікі рэдакцыі "Слова Жыцця"!**

З нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года сардэчна жадаем Вам моцнага здароўя, доўгіх гадоў жыцця, радасці, Божага бласлаўлення на кожны дзень. Няхай Найсвяцейшая Маці заўсёды Вамі апекуецца, а Дзіцятка Езус адорвае супакоем і любоўю. Няхай кожнае слова, скіраванае Вамі праз газету, дапамагае нам яшчэ больш умацоўваць сваю веру.

*Апостальства "Маргарытка" з капліцы св. Яна Паўла II у Смаргоні*

**Паважанаму Ксяндзу Аляксандру Рудзевічу**

з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года складаем сардэчныя пажаданні: здароўя, шчасця, шчодрых Божых ласкаў на святарскім шляху. Няхай нованароджаны Езус суправаджае Вас па жыцці, Святы Дух адорвае мудрасцю, а Найсвяцейшая Панна Марыя ахінае плашчом сваёй апекі.

*Парафіяне з в. Старое Сяло*

**Паважанаму Ксяндзу Яўгену Учкуронісу**

з нагоды свят Божага Нараджэння, Новага года і Імянін сардэчна жадаем здароўя, поспехаў, шчырых і верных людзей побач, бласлаўлення ад Дзіцятка Езус і няспыннай апекі Панны Марыі. Дзякуем за прыклад глыбокай малітвы, за мудрыя, павучальныя казанні, якія пакінулі след у нашых сэрцах. Няхай Ваш шлях служэння Богу будзе доўгім, шчаслівым і плённым, а Усемагутны ўзнагародзіць з тое, што дапамагаеце людзям ісці праз жыццё з верай, надзеяй і любоўю.

*Былыя парафіяне з в. Старое Сяло*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Віктару Захарэўскаму**

з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года перасылаем сардэчныя пажаданні. Няхай Ваша святарская паслуга будзе асветлена паўнатой бласлаўлення Божага Дзіцяці, стойкасцю ў веры і радасцю абвяшчэння Божага слова, якое дапамагае нам ісці дарогаю навяртання. Жадаем моцнага здароўя, душэўнага супакою, дароў Святога Духа, апекі Найсвяцейшай Панны Марыі. Вясёлых, радасных Свят і шчаслівага новага года Вам і Вашым родным!

*Вернікі з парафіі Раготна*

**Паважаным Ксяндзам Антонію Абухоўскаму, Юрыю Павайбу, Юрыю Свіслоцкаму, Юрыю Марціновічу, Вітольду Лазавіцкаму, Юзафу Ганчыцу, Аляксандру Севасцьяновічу, Айцу Казіміру Енджэйчаку, Сёстрам Эўхарыі Гульбуй, Гарэцці Міленкевіч, Серафіме Гапеевай, Паўле Радзівілка, Юліце Пятровай**

з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года перасылаем мноства сардэчных пажаданняў: моцнага здароўя, душэўнага супакою, стойкасці ў службе Богу і людзям, а таксама Божага бласлаўлення на кожны дзень жыцця. Радасных Свят!

*Вернікі з парафіі Тэалін*

**Паважанаму Ксяндзу Прэлату Вітольду Лазавіцкаму**

з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года складаем мноства сардэчных пажаданняў. Няхай нованароджаны Езус апекуецца Вамі, адорвае добрым здароўем і ўсімі патрэбнымі ласкамі. А супакой, як Бэтлеемская зорка, ззяе ў Вашым сэрцы. Няхай Дзіцятка Езус заўсёды будзе з Вамі і шчыра бласлаўляе, а Маці Божая асвячае кожны пражыты дзень.

*Жыхары в. Шэмбелеўцы*

**Паважаным Ксяндзам Пробашчу Віктару Велівісу, Яўгену Ціхану, Сястры Ядзвізе Мяцеліцы і ўсім, хто працаваў у нашым касцёле,**

з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года ад усяго сэрца жадаем добрага здароўя, нязгаснага запалу ў абвяшчэнні Божага слова, шмат радасных і добрых хвілін на кожны дзень і доўгіх гадоў жыцця, каб маглі служыць Богу і Яго люду. Няхай нованароджаны Езус адорвае Вас сваімі ласкамі і бласлаўленнем, а Найсвяцейшая Маці вядзе найпрыгажэйшай дарогай і нястомна апекуецца Вамі.

*Парафіяне з касцёла св. Роха*

**Паважаныя Айцы Пробашч Андрэй Агель і Аляксандр Махнач!**

З нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года сардэчна жадаем Вам моцнага здароўя, шчырых і верных людзей побач, шчодрых ласкаў ад нованароджанага Езуса і нястомнай апекі Найсвяцейшай Панны Марыі на шляху служэння Богу і людзям. Няхай Вашы сэрцы і розум ніколі не стамляюцца абвяшчаць Евангелле. Дзякуем за адданую працу, шчырыя словы і клопат аб святыні і парафіянах.

*Вернікі з парафіі Ліда-Індустрыяльны*

**Паважанаму Ксяндзу Андрэю Пышынскаму**

з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года жадаем душэўнага супакою і шмат радасці ад Дзіцятка Езус. Няхай Пан асвячае ласкамі Ваш зямны шлях, спасылае моц і натхненне ў душпастырскім служэнні, Маці Божая апекуецца і вядзе дарогай да святасці, а Бэтлеемская зорка нясе супакой у сэрца. Жадаем прызнання ды зычлівасці ад людзей і апекі святога Заступніка ў кожную хвіліну жыцця.

*Парафіяне з Рандзілаўшчыны і Казлоўшчыны*

**Паважанаму Ксяндзу Валерыю Спірыдону**

з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года сардэчна жадаем здароўя, шчасця і бласлаўлення ад Дзіцятка Езус. Няхай Святы Дух дапамагае Вам ва ўсіх справах, Маці Божая вядзе найпрыгажэйшымі сцежкамі па жыцці, праца прыносіць шчодры плён, а добры Бог бласлаўляе ў святарскім служэнні. Няхай кожны дзень у новым годзе будзе радасным і светлым.

*Былыя парафіяне з Рандзілаўшчыны і Казлоўшчыны*

**Паважанаму Ксяндзу Паўлу Гедройцю**

з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года жадаем радасці ад абвяшчэння Божага слова, бласлаўлення Божага Дзіцятка, здароўя, сілы ў пераадольванні цяжкасцей штодзённага жыцця, цярплівасці, непахіснай веры, моцнай надзеі і бясконцай радасці ад выканання сваёй паслугі.

*Сем'і Занеўскіх і Красніцкіх*

**Паважанаму Ксяндзу Паўлу Гедройцю**

з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года складаем сардэчныя пажаданні добрага здароўя, шчасця, радасці, надзеі, сіл у душпастырскай паслузе і бласлаўлення ад Дзіцятка Езус. Няхай Найсвяцейшая Маці ахоўвае Вас ад злога, а Бэтлеемская зорка асвячае шлях да Пана. Вясёлых Свят!

*Вернікі з парафіі Галынка*

**Паважанаму Ксяндзу Юрыю Церабею**

з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года сардэчна жадаем шчодрых Божых ласкаў, апекі Найсвяцейшай Маці і бласлаўлення Дзіцятка Езус. Няхай Пан напаўняе сэрца супакоем і дапамагае пераадольваць цяжкасці, душа застаецца адкрытай і чыстай, словы нясуць радасць і супакой людзям, а Святы Дух надзяляе мужнасцю. Жадаем разумення, цярплівасці і натхнення ў паслузе Богу і людзям.

*Парафіяне з Барунаў*

**Паважанаму Ксяндзу Аляксандру Рудзевічу**

з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года перасылаем сардэчныя пажаданні: здароўя, радасці, душэўнага супакою і шчодрых ласкаў ад Дзіцятка Езус. Няхай агонь Божай любові ўзрастае ў Вашым сэрцы, а Бэтлеемская зорка ніколі не гасне на жыццёвым шляху. Вясёлых свят і шчаслівага новага года!

*Парафіяне з касцёла св. Міхала Арханёла ў Луконіцы*

**Паважаным Айцам Антонію Пажэцкаму, Паўлу Раманчуку і Станіславу Садоўскаму**

з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года ад шчырага сэрца жадаем шмат здароўя, шчодрых ласкаў ад Дзіцятка Езус на кожны дзень. Дзякуем за тое, што Вы з намі, за Божае слова, любоў і дабрыню. Няхай міласэрны Бог узнагародзіць Вас, а Найсвяцейшая Маці мае ў сваёй апецы і ахінае нястомнай дапамогай.

*Рыцарства Беззаганнай і Кола адарацыі*

**Паважанаму Айцу Пробашч Андрэю Шчупалу**

з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года перасылаем букет найлепшых пажаданняў. Няхай нованароджаны Збаўца адорыць Вас здароўем, радасцю і сілай, а Яго Найсвяцейшая Маці апекуецца і ахоўвае кожны дзень. Няхай Бэтлеемская зорка асвячае Ваша жыццё і нясе супакой у сэрца і душу.

*Вернікі з парафіі Новая Руда*

**Паважанаму Ксяндзу Дзмітрыю Урбановічу**

з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года перасылаем букет найлепшых пажаданняў: моцнага здароўя, сілы, душэўнага супакою, людской добразычлівасці, шчодрых Божых ласкаў і апекі Найсвяцейшай Маці. Радасных Свят і шчаслівага новага года!

*Апостальства "Маргарытка" і вернікі з парафіі Дуды*

працяг віншаванняў на с. 8

# Ад шчырага сэрца

**Паважаным Айцу Валерыю Шэйгерэвічу, Ксяндзу Юрыю Канапельку і Сястры Антоніі Шэйгерэвіч**

з нагоды свят Божага Нараджэння складаем сардэчныя пажаданні. Няхай міласэрны Бог узнагародзіць Вас моцным здароўем, стойкасцю, сілай і нязгасным запалам у шчырым і адданым служэнні Богу і людзям. Найсвяцейшая Маці няхай апекуецца Вамі на працягу ўсяго жыцця, ахінае сваім плашчом і ахоўвае цяплынёй свайго сэрца, а Святы Дух асвячае дарогу, па якой мы ідзём разам з Вамі. Дзякуем за Вашы малітвы, зычлівасць, усмешку і добрае сэрца.

*Вернікі з парафіі Поразава*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Яну Кучынскаму**

з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года жадаем моцнага здароўя, аптымізму, дароў Святога Духа, мноства шчаслівых і сонечных хвілін. Дзякуем за разуменне, мудрасць і цярплівасць, чулае і добразычлівае сэрца, за апеку і клопат пра нас і святыню, а таксама за ўмацаванне нас у веры і любові да Бога. Няхай нованароджанае Божае Дзіця адорвае Вас сваімі ласкамі і бласлаўляе кожны дзень, міласэрны Пан заўсёды шчодра ўзнагароджвае, Найсвяцейшая Маці прытуляе да свайго сэрца і дадае сіл служыць Богу і людзям, а Бэтлеемская зорка паказвае самы прыгожы шлях да Неба.

*Малітоўная група МБ Кангрэгацкай*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Юрыю Бяганскаму**

з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года складаем сардэчныя пажаданні. Няхай Вашы рашэнні і мары будуць напоўнены радасцю, энтузіязмам і свабодай, каб Вы маглі знаходзіць шчасце ў малых, штодзённых справах, каб шукалі цяпла і надзеі, паглыбляліся ў тое, што ўзбагачае і развівае. Старайцеся з пакорай уваходзіць у чарговыя этапы жыцця, каб не прапусціць важныя і цудоўныя знакі Любові. Няхай Дзіцятка Езус дадасць Вам стойкасці ў веры і ўчыніць, што Слова Божае яшчэ лягчэй будзе трапляць у сэрцы вернікаў. Душэўнага супакою, радасці, поспехаў і задавальнення ад абвяшчэння Добрай Навіны.

*Парафіяне і Колы Жывога Ружанца з Тракеляў*

**Паважанаму Ксяндзу Аляксандру Адамовічу**

з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года складаем найлепшыя пажаданні. Няхай прыйсце ў свет Хрыста прынясе з сабой радасць, супакой, надзею і любоў ад усіх людзей. Няхай Пан Бог Вас бласлаўляе і дапамагае перажываць усе цяжкасці, а Святы Дух пранікае ў глыбіню сэрца і напаўняе Вашы дні сваімі дарамі. Радасных свят Божага Нараджэння і ўсяго добрага ў новым годзе!

*Вернікі з в. Салтанішкі, парафія Нача*

**Паважанаму Ксяндзу Вячаславу Матукевічу**

з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага 2019 года жадаем мудрасці, радасці, шчасця і запалу ў служэнні Богу і людзям, добрага настрою, здароўя, шчодрага плёну ў душпастырскай паслузе. Няхай Пан Езус, Святы Дух і Маці Божая будуць Вашымі самымі блізкімі Памочнікамі ў будаванні Божага Валадарства на зямлі. Жадаем вялікай радасці з нагоды гэтых свят Вам і Вашым родным.

*Парафіяне з касцёла Нараджэння НПМ у Дудах*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Віталію Чургану**

з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года перасылаем сардэчныя пажаданні: моцнага здароўя, душэўнага супакою, радасці, цярплівасці і моцы на кожны дзень жыцця. Няхай Божае Дзіця адорыць Вас усімі ласкамі, а Анёлы пакажуць карацейшы шлях да Бэтлеемскай стаенкі.

*Ружанцовае кола НПМ Чанстахоўскай з Юрацішкаў*

**Паважанаму Ксяндзу Міхалу Ластоўскаму**

з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года перасылаем букет найлепшых пажаданняў. Няхай нованароджаны Езус стала валадарыць у Вашым сэрцы, дадаючы сілы ў служэнні Богу і людзям. Здароўе, радасць, супакой, любоў і людская добразычлівасць няхай заўсёды Вам спадарожнічаюць, а Найсвяцейшая Маці ахінае сваёй апекай і ахоўвае ад зла. Вясёлых Свят і шчаслівага, шчодрага на Божыя ласкі новага года!

*Парафіяне з в. Навасёлкі*

**Паважаны Ксёндз Пробашч Антоній Філіпчык!**

Мінае 30 гадоў Вашай святарскай паслугі ў нашай парафіі. З гэтай нагоды жадаем Вам вялікай радасці на кожны дзень, а таксама сіл і здароўя для выканання складаных абавязкаў айца парафіі. Усё, што Вы робіце для нас, застанецца ў нашых сэрцах, душах і памяці наступных пакаленняў. Няхай міласэрны Бог шчодра ўзнагароджвае Вас за ахвярнасць, а Найсвяцейшая Маці і Езус Хрыстус будуць падтрымкай у штодзённым служэнні Богу і людзям.

*Касцёльны хор з парафіі св. Вацлава ў Ваўкавыску*

**Паважаным Ксяндзам Валянціну Хведуку, Яну Рэйшалю і Віктару Захарэўскаму**

з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года перасылаем мноства сардэчных пажаданняў. Няхай нованароджаны Збаўца, які прыносіць супакой усяму чалавецтву, адорвае Вас сваімі ласкамі: моцным здароўем, радасцю і душэўным супакоем, дабрынёй і зычлівасцю людскіх сэрцаў, а Панна Марыя па-мацярынску апекуецца Вамі на працягу ўсяго жыцця.

*Вернікі з Моцевічаў*

**Паважанаму Ксяндзу Андрэю Казлоўскаму**

з нагоды Дня нараджэння, свят Божага Нараджэння і Новага года хочам пажадаць шчодрых Божых ласкаў, здароўя і радасці на кожны дзень. Няхай Дзіцятка Езус бласлаўляе на далейшыя гады працы на карысць Богу і людзям, а міласэрны Пан узнагародзіць за адданую паслугу ў нашай парафіі.

*Вернікі з Малой Бераставіцы*

**Паважанаму Ксяндзу Каноніку Генрыху Яблоньскаму**

жадаем радасных і добрых свят Божага Нараджэння, мноства шчаслівых хвілін, сілы і мудрасці ў новым годзе. Няхай Дзіцятка Езус бласлаўляе Вас на доўгія гады служэння Богу і людзям, а Маці Божая нястомна атуляе плашчом сваёй дабрыні і апекі.

*Вернікі з парафіі Найсвяцейшай Тройцы ў Забалаці*

**Паважанаму Ксяндзу Алегу Дулю**

з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года шчыра жадаем моцнага здароўя, бязмежных духоўных сіл, стойкасці, доўгіх гадоў жыцця, плённай працы на ніве Пана і бласлаўлення ад Дзіцятка Езус. Няхай новы год прынясе Вам мноства свежых творчых ідэй і нязгасны аптымізм у працы, а побач няхай заўсёды будуць добразычлівыя людзі.

*Ружанцовыя колы і парафіяне з касцёла св. Станіслава Косткі ў Ваўкавыску*

**Паважанаму Ксяндзу Казіміру Жывалеўскаму**

з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года жадаем здароўя, доўгіх гадоў жыцця, радасці, душэўнага супакою, шмат сіл і стойкасці ў душпастырскай працы, а таксама бласлаўлення ад Дзіцятка Езус і няспыннай апекі Маці Божай у кожную хвіліну жыцця.

*Сям'я Жывалеўскіх*

**Паважанаму Айцу Віталію Манцэвічу**

з нагоды Дня нараджэння дасылаем самыя сардэчныя пажаданні: здароўя, радасці, моцнай веры, любові да Бога і блізкіх, добрых і спагадлівых людзей побач. Няхай праца прыносіць задавальненне і добры плён, а Найсвяцейшая Панна Марыя атуляе сваёй апекай у нялёгкай святарскай паслузе.

*Парафіяне з касцёла св. Францішка Асізскага ў г. Свіслач*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Юрыю Кузьмічу**

з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года складаем сардэчныя пажаданні. Няхай нованароджаны Збаўца адорвае Вас супакоем і любоўю, Мама Марыя вядзе найпрыгажэйшай дарогай жыцця, Святы Дух спасылае свае дары, а побач будуць толькі добразычлівыя людзі. Дзякуем Вам за шчырую малітву, мудрыя словы і добрыя парады.

*Вернікі з Новага Двара, вул. Зарэчная*

**Паважанаму Айцу Казіміру Енджэйчаку**

з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года ад усяго сэрца жадаем бласлаўлення Божага Дзіцяці, няспыннай апекі Панны Марыі на святарскім шляху, шчодрых дароў Святога Духа, нязгаснага запалу ў абвяшчэнні Божага слова, моцнага здароўя на доўгія гады, душэўнага супакою, шчырых і добрых людзей побач.

*Яна, Валерый і Вераніка*

**Паважаным Ксяндзам Віктару Мыслюку і Леону Лішыку**

з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года перасылаем сардэчныя пажаданні. Няхай нованароджаны Збаўца адорыць Вас здароўем, сілай, радасцю, добразычлівасцю людскіх сэрцаў, супакоем і моцнай верай. Радасных Свят і шчаслівага новага года!

*Вернікі з парафіі Волпа*

**Паважанаму Ксяндзу Раману Ялоўчыку**

з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года складаем сардэчныя пажаданні. Няхай заўсёды хапае сіл, запалу і стойкасці ў душпастырскай паслузе, кожная хвіліна жыцця будзе радаснай і бласлаўлёнай, народжанае Дзіця Божае адорвае ўсімі ласкамі, а міласэрная Маці мае ў сваёй апецы.

*Удзячныя парафіяне і апостальства "Маргарытка" з Гнезна*

**Паважанаму Айцу Андрэю Шчупалу**

з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года складаем найлепшыя пажаданні. Няхай нованароджаны Пан Езус адорыць Вас сваімі дарамі, моцным здароўем, радасцю, супакоем у душы, а таксама дабрынёй і людской добразычлівасцю, а Найсвяцейшая Панна Марыя няспынна Вамі апекуецца на святарскім шляху.

*Сям'я Заяц*

**Паважанаму Ксяндзу Паўлу Барысевічу**

з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года складаем сардэчныя пажаданні. Няхай Бог Вас бласлаўляе і адорвае сваімі ласкамі, каб стойка ішлі па абранай жыццёвай дарозе, служачы Богу і людзям. Няхай умацоўвае Вас сваёй любоўю і моцай, каб у прастаце, пакорнасці і любові да бліжняга, нягледзячы на чалавечую недасканаласць, Вы былі нераўнадушным святаром. Ад усяго сэрца дзякуем за працу ў нашай парафіі.

*Вернікі з Навальні*

**Паважаным Ксяндзам Пробашчу Юрыю Грыцко і Ігару Анісімаву**

з нагоды свят Божага Нараджэння ад усяго сэрца жадаем моцнага здароўя, душэўнага супакою, бясконцай радасці з плёну сваёй працы, добразычлівых людзей на жыццёвым шляху, шчодрых Божых ласкаў і сталай апекі Найсвяцейшай Панны Марыі. Няхай кожны Ваш дзень будзе асвечаны бязмежнай любоўю Бога.

*Вернікі з парафіі Узвышэння Святога Крыжа ў в. Першамайская і капліцы Божай Міласэрнасці ў в. Хадзілоні*

**Паважаным Ксяндзам Пробашчу Алегу Жураўскаму і Здзіславу Вэдэру, Сёстрам Ірыне Барцэвіч, Вераніцы Блізнюк, Валянціне Кот і Юліі Клявец**

з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года перасылаем сардэчныя пажаданні: моцнага здароўя, душэўнага супакою, шмат радасці, шчодрых Божых ласкаў, добрых і зычлівых людзей на жыццёвым шляху. Няхай нованароджаны Хрыстос бласлаўляе і ахоўвае Вас, а Маці Божая ахінае сваёй ласкай і апекай.

*Дзеці, моладзь, закрыстыянін Здзіслаў, міністранты, парафіяне з касцёла св. Міхала Арханёла ў Смаргоні*

**Паважаныя Ксяндзы Пробашч Аляксандр Раманоўскі, Прэлат Юзаф Трубовіч, Андрэй Зайко і Віктар Занеўскі!**

Сардэчна віншуем Вас з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года. Няхай нованароджанае Дзіцятка Езус дае Вам сілы, мудрасць і цярплівасць, каб пераадолець усе выпрабаванні, Святы Дух умацоўвае веру, робіць сэрцы мяккімі, а душу напаўняе вялікай і светлай любоўю. Няхай святло Бэтлеемскай зоркі доўгай белай стужкай цягнецца праз усё Ваша жыццё. Дзякуем за тое, што стала знаходзіцеся побач з намі ў радасці, трывозе і журбе, што спадарожнічаеце нам на сцежках жыцця парадай і падтрымкай.

*Парафіяне з касцёла Беззаганнага Зачацця НПМ, Гродна-Паўднёвы*

**Паважаным Ксяндзам Дзмітрыю Несцеру і Юрыю Марціновічу**

з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года жадаем добрага здароўя, нязгаснага запалу ў святарскай паслузе, зычлівых людзей побач. Няхай міласэрны Езус адорвае Вас бясконцым натхненнем і асвячае святарскі шлях, а Маці Божая вядзе найлепшай дарогай да святасці і прытуляе да свайго мацярынскага сэрца.

*Касцёльны камітэт і вернікі з парафіі Геранёны*

**Паважаным Ксяндзам Пробашчу Яўгену Учкуронісу і Алегу Яновічу**

з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года ад шчырага сэрца жадаем моцнага духоўнага і цялеснага здароўя, доўгіх гадоў жыцця, шчасця, мудрасці, каб годна несці нас да Бога, Хрыстовай любові ў Вашы добрыя сэрцы, супакою, дабрабыту, Божага бласлаўлення ва ўсіх справах, а таксама заступніцтва Панны Марыі і ўсіх святых. Мы ўдзячны Вам за апеку, наказы і Божае слова. Няхай Дзіцятка Езус адорвае супакоем і любоўю, Найсвяцейшая Панна Марыя прытуляе да свайго сэрца, а Бог, якому давераліся, дапамагае пераадольваць усе цяжкасці. Вельмі ўдзячныя Богу, што паслаў нам Вас.

*Вернікі з парафіі св. Яна Паўла II у Смаргоні*

**Паважаным Ксяндзам Дзмітрыю Урбановічу, Артуру Валчкевічу, Юрыю Едзіку, Віталію Цыбульскаму і Аляксадру Вараб'ёву**

з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага 2019 года перасылаем сардэчныя пажаданні. Няхай Дзіцятка Езус блаславіць Вас на далейшыя гады служэння Богу і людзям, а Божая Маці вядзе найпрыгажэйшай дарогай жыцця. Жадаем таксама шчодрых дароў Святога Духа, душэўнага супакою, вялікай радасці, верных і добрых людзей побач і ўсіх Божых ласкаў.

*Былыя парафіяне з парафіі св. Яна Паўла II у Смаргоні*

**Рэдакцыя пакідае за сабой права скарачаць і аб'ядноўваць пажаданні**

Інфармацыйна-рэлігійная газета Гродзенскай дыяцэзіі **Слова Жыцця;** Галоўны рэдактар **кс. Юрый Марціновіч;** Заснавальнік: **Гродзенская рыма-каталіцкая дыяцэзія**; год заснавання **1997**; рэгістр. **№1085**; Выдавец: **курыя Гродзенскай дыяцэзіі.**
Рэдакцыя газеты: **230025 Гродна, вул. К. Маркса, 4;** Юрый Лавыш, Алена Гальчэня; тэл. **8 0152/ 756438**; e-mail: slowo.grodnensis@gmail.com.; **http://www.slowo.grodnensis.by.**
Друк: **ГАУПП«Гродзенская друкарня»,** ЛП 02330/39 от 27.03.2014 г. 230025 Гродна, вул. Паліграфістаў, 4; нумар заказу 6717 ; тыраж 5240; аб'ём газеты – 2 умоўна друкарскія лісты; Якасць друку адпавядае якасці прадстаўленых дыяпазітываў; цана адвольная